Гродна
№16 (498),
9 верасня 2018

www.slowo.grodnensis.by




# Слова Жыцця


ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ


# Мучаніцы з Навагрудка – каштоўны і нятленны скарб









4 верасня ў Гродзенскай дыяцэзіі адзначаецца літургічны ўспамін бл. Марыі Стэлы і 10-ці яе паплечніц, мучаніц з Навагрудка. Манахіні з Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта былі расстраляны ў Батароўскім лесе 1 жніўня 1943 года. Сёстры назарэтанкі аддалі свае жыццё, каб выратаваць 120 чалавек, пераважна бацькаў сем'яў, і кс. Аляксандра Зянкевіча. Ахвяра манахінь не забытая і праз многія гады пасля іх мучаніцкай смерці. Бласлаўлёныя назарэтанкі заклікаюць нас любіць Касцёл і яго пастыраў, вучаць, што супраць здзекаў, гвалту, несправядлівасці трэба змагацца сілай любові і праз цярпенне прыносіць супакой свету.


• працяг на с. 4


“Кроў мучанікаў – заклік да еднасці хрысціян”. Папа Францішак

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### XXIII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ
**Мк 7, 31–37**

Езус выйшаў з зямель Тыру і прайшоў праз Сідон да Галілейскага мора, пасярод межаў Дэкаполіса. І прынеслі да Яго глуханямога, і прасілі, каб усклаў на Яго руку. Адвёўшы яго далей ад натоўпу, паклаў у яго вушы свае пальцы і, плюнуўшы на іх, дакрануўся імі да ягонага языка. І, паглядзеўшы на неба, уздыхнуў і сказаў яму: “Эффата!” – што значыць: “Адкрыйся”. І адразу ж адкрыліся вушы ягоныя, і развязаліся путы языка ягонага, і пачаў гаварыць выразна.

Тады Езус загадаў ім, каб нікому не казалі. Але колькі ні забараняў ім, яны яшчэ больш апавядалі. І, будучы надзвычай здзіўленымі, казалі: “Ён зрабіў усё добра: учыніў, што глухія чуюць, а нямыя гавораць”.

### БОГ БАЧЫЦЬ ЛЮДСКОЕ СЭРЦА

Чалавек, які ані не чуў, ані не мог гаварыць, мог толькі назіраць за ўчынкамі Хрыста. Езус дасканала бачыў яго сэрца. Заўважаў, як у ім узрастае вера. Аздараўленне гэтага хворага адбылося дзякуючы таму, што ён адкрыў сябе на Бога. І тут маецца на ўвазе не толькі фізічнае, але і духоўнае ацаленне.

Мы таксама павінны ўмець разглядзець у штодзённым жыцці справы Усемагутнага, Яго сталую прысутнасць, клопат пра кожнага чалавека. Рабіць гэта, слухаючы Слова, якое Бог нам дае, жадаючы абвяшчаць Яго вялікія справы, бо, будучы пасіўнымі назіральнікамі жыцця, не можам адчуць яго паўнату.

Бог ведае сэрца кожнага і ведае, што ў ім адбываецца. Нягледзячы на нашы штодзённыя слабасці, падзенні, грахі і зняволенні, маем веру, праз якую Бог хоча ўвайсці ў нашае жыццё.

**Якім я бачу свой жыццёвы шлях?**

**Якія ўчынкі выклікае мая вера?**

### XXIV ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ
**Мк 8, 27–35**

Езус са сваімі вучнямі пайшоў у вёскі Цэзарэі Філіпавай. Па дарозе Ён пытаўся ў вучняў сваіх, кажучы ім: “Кім людзі лічаць Мяне?”. Яны адказвалі Яму: “Янам Хрысціцелем, другія – Іллёю, іншыя – адным з прарокаў”. А Ён спытаўся ў іх: “А вы кім лічыце Мяне?”. Пётр сказаў Яму ў адказ: “Ты – Хрыстос”. І загадаў ім, каб нікому не казалі пра Яго.

І пачаў вучыць іх, што Сын Чалавечы павінен шмат выцерпець, і быць адкінутым старэйшымі, першасвятарамі і кніжнікамі, і быць забітым, і на трэці дзень уваскрэснуць. І казаў пра гэта адкрыта. А Пётр, адвёўшы Яго ў бок, пачаў дакараць Яго. А Ён, павярнуўшыся і паглядзеўшы на сваіх вучняў, дакарыў Пятра, сказаўшы: “Адыдзі ад Мяне, сатана, бо ты не пра Божае думаеш, а пра чалавечае”.

І, паклікаўшы натоўп разам з вучнямі сваімі, сказаў ім: “Калі хто хоча ісці за Мною, няхай адрачэцца ад сябе, возьме крыж свой і ідзе за Мною. Бо той, хто хоча жыццё сваё ўратаваць, загубіць яго, а хто загубіць жыццё сваё дзеля Мяне і Евангелля, той уратуе яго”.

### АДКРЫЦЦА НА СЛОВА

Св. Пётр вызнае веру ў тое, што Хрыстос з’яўляецца Месіяй – Божым Памазаннікам. Аднак пасля не ідуць учынкі. У сэрцы апостала не хапае даверу да Усемагутнага. Езус абвінавачвае Пятра ў тым, што ён думае па-людску, а не па-Божаму.

Каб ісці за Езусам, мы павінны адмовіцца ад сваіх ілюзій, перасцярог і з даверам, з чыстым розумам і сэрцам адкрыцца на Слова Бога. “Дух вее там, дзе хоча, і голас яго чуеш, але не ведаеш, адкуль прыходзіць і куды ідзе. Так ёсць з кожным, хто нарадзіўся ад Духа” (Ян 3, 8).

Пайсці за Езусам – значыць кінуцца, як дзіця, у абдымкі любячага Айца. Слова і Дух скіроўваюць нас, каб не ішлі ў супрацьлеглым напрамку ад таго, які вызначае Бог.

**Ці дазваляю Слову, каб яно магло ўва мне прабываць і дзейнічаць?**

**Што ў сваім жыцці я прызнаю натхненнем, а што – спакусай?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

---

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Жыццё за жыццё

*Чалавек жыве ў грамадстве. Усім сваім развіццём ён абавязаны іншым, пачынаючы ад моманту нараджэння. Шмат бярэ ад іншых, але таксама шмат мусіць аддаваць. Таму павінен служыць свету сваёй інтэлігентнасцю, матэрыяльнымі дабротамі, фізічнымі сіламі і здароўем. Чалавек варты столькі, колькі зробіць дабра. І хоць мае права на жыццё і адпаведныя ўмовы развіцця, а грамадства абавязана забяспечыць яму асабістую бяспеку, часам могуць здарыцца выключныя сітуацыі, якія патрабуюць ад чалавека найбольшай ахвяры – жыцця.*

На слушнасць гэтага ўказвае нам сам Бог, пасылаючы свайго Сына як выратаванне для свету. Смерць Хрыста за чалавечыя грахі – доказ таго, што існуюць каштоўнасці, важнейшыя, чым жыццё. “Ніхто не мае большай любові за тую, калі хто жыццё сваё аддае за сяброў сваіх” (Ян 15, 13). Гатоўнасць ахвяраваць уласнае жыццё за іншага чалавека заўсёды абуджае ў нас захапленне і павагу. Прыкладам такога гераізму з’яўляюцца, між іншым, бласлаўлёныя с. Стэла і 10 яе паплечніц з Навагрудка, якія падчас II Сусветнай вайны аддалі сваё жыццё, ратуючы бацькаў сем’яў. У парыве сэрца, напоўненага любоўю да Бога і іншага чалавека, яны адважыліся на вялікі подзвіг, лічачы, што бацькі сем’яў больш патрэбныя свету, чым яны.

Ахвяра сясцёр назарэтанак была прынята. Жнівеньскай раніцай 75 гадоў таму манахіні выйшлі насустрач Боскаму Жаніху. Ноччу перад забойствам у падзямеллі нямецкага камісарыята яны чувалі з запаленай лямпай любові, каб не ўпусціць найважнейшы момант, калі прыйдзе Жаніх. Падобна як евангельскія панны, сустрэлі Яго, набліжаючагася, і былі запрошаны да ўдзелу ў вясельнай гасціне. Любоў Хрыста, якая ў жыцці мучаніц з Навагрудка праявілася ва ўчынках любові да бліжняга, паспрыяла таму, што знікненне, да якога схільны кожны чалавек на зямлі, не сцерла памяць пра іх.

Прыкладаў ахвяры за іншага чалавека хапае таксама і сёння. Ратаўнікі, пажарныя, валанцёры часта падвяргаюць небяспецы ўласнае жыццё, каб ратаваць іншых. Іх прысвячэнне нагадвае аб тым, што жыццё з’яўляецца вялікім скарбам, але не самым важным. Ёсць іншыя, больш каштоўныя вартасці: любоў да Бога і бліжняга, рэлігійныя перакананні, адказнасць за даручаныя заданні… Таму варта быць гатовым да найвялікшай ахвяры за іх – да ахвяры жыцця. Хрысціянін павінен паступаць так у першую чаргу для таго, каб выканаць Хрыстовы наказ любові: “Вось запаведзь Мая, каб вы любілі адзін аднаго, як Я палюбіў вас” (Ян 15, 12).

**Дарагія Чытачы!**

Мы сёння захапляемся тымі, хто загінуў, каб іншыя маглі жыць. Ушануйма мучанікаў і герояў нашай зямлі, якія з любові дайшлі да апошніх граніц. Калі Пан паставіць нас у падобных акалічнасцях, няхай эгаізм не закрые нашыя сэрцы і не адбярэ адвагу!

---




# СВ. СТАНІСЛАЎ КОСТКА: ЗАСТУПНІК ДЗЯЦЕЙ І МОЛАДЗІ



*У іканаграфіі св. Станіслаў Костка прадстаўлены ва ўборы езуіта, часам разам з анёлам, які падае яму св. Камунію, Дзіцяткам Езус на руках, Мадоннай. Яго атрыбутамі з’яўляюцца ўкрыжаванне, пілігрымскі кій, лілія, ружанец.*

**Глядзеў на свет не так, як іншыя. Дапамогай у гэтым “быцці іншым” служыла яму моцная вера ў Пана Бога, абсалютны давер Усемагутнаму і перакананне ў тым, што ён можа стаць святым. З’яўляецца заступнікам маладых людзей, а таксама літургічнай службы алтара.**

#### ДАРУЧЫЎ СЯБЕ АПЕЦЫ НАЙСВЯЦЕЙШАЙ МАЦІ

Станіслаў убачыў свет 28 снежня 1550 года ў Расткове (Польшча) у шляхецкай сям’і. З самых малых гадоў быў вельмі чуллівы. Першыя веды атрымліваў дома. Ва ўзросце 14-ці гадоў разам са сваім старэйшым братам Паўлам быў адпраўлены для далейшага навучання ў папулярную школу ў Вене (Аўстрыя), якой кіравалі айцы езуіты.

Хлопец не толькі клапаціўся пра здабыванне ведаў (бегла валодаў нямецкай і лацінскай мовамі, разумеў грэчаскія тэксты), але таксама з дапамогай шчодрых Божых ласкаў фарміраваў свой дух. Ужо тады меў глыбокую эўхарыстычную набожнасць, адчуваў блізкасць і клопат Марыі, якой з самых малых гадоў даручыў апеку над чысцінёй свайго сэрца. Глыбока прагнуў поўнасцю належаць Пану.

Гледзячы на працу і духоўны энтузіязм езуітаў, юнак вырашыў уступіць у Таварыства Езуса. Аднак манахі не хацелі прымаць яго ў навіцыят, баючыся негатыўнай рэакцыі бацькоў. Бачачы, што на Бацькаўшчыне яму не ўдасца рэалізаваць свой план, Станіслаў пастанавіў уцячы ў Германію, каб там прасіць аб прыняцці ў ордэн. У Дылінзе св. Пётр Канізій вырашыў яго выпрабаваць. На працягу некаторага часу хлопец павінен быў прыбіраць пакоі і дапамагаць на кухні, што было для шляхціца балючым вопытам. Праз некаторы час нямецкі правінцыял адправіў яго разам з 2-ма маладымі езуітамі ў Рым (Італія).

Станіслаў з вялікай радасцю ўключыўся ў рытм жыцця навіцыя пры касцёле св. Андрэя ў Квірынале: малітва, хатнія працы, паслуга ў шпіталі, аскетычныя канферэнцыі і рэгулярныя духоўныя размовы з апекуном навіцыяў. Дзякуючы прастаце ў паводзінах, саліднасці ў выкананні штодзённых абавязкаў і духу малітвы хлопец заваяваў вялікую сімпатыю ў ордэне.

У ліпені 1568 года з-за вялікай спякоты Станіслаў цяжка захварэў. Адчуваў хуткі канец сваёй зямной вандроўкі. Адкрыта, без страху пра гэта гаварыў, нягледзячы на тое, што стан яго здароўя трохі паляпшаўся.

Адышоў да Пана 15 жніўня 1568 года, ва ўрачыстасць Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Беатыфікаваны ў 1602 годзе папам Паўлам V, кананізаваны папам Бенедыктам XIII у 1726 годзе.

#### ЧАМУ МЫ МОЖАМ НАВУЧЫЦЦА Ў СВ. СТАНІСЛАВА КОСТКІ?

Святы з’яўляецца прыкладам чалавека, які паказвае, як набожнасць можна перакласці на канкрэтныя ўчынкі і паставы. Вучыць уменню з радасцю прымаць тое, што нас чакае, а таксама выкарыстоўваць кожную хвіліну, каб дзяліцца тым, што добрае.

#### ЦІКАВА!

Час побыту Станіслава ў Вене быў перыядам надзвычай абуджанага ўнутранага жыцця. Хлопец бачыў толькі 3 дарогі: у каледж, у касцёл і дадому. Вольны час праводзіў за чытаннем і малітвай. З-за таго, што не мог прысвяціць сузіранню шмат часу на працягу дня, аддаваўся яму ноччу. Акрамя таго, задаваў сабе епітым’ю і займаўся самабічаваннем.

#### З ВУСНАЎ СВЯТОГА

“Я створаны для вышэйшых рэчаў”.

#### ЛІТУРГІЧНЫ ЎСПАМІН

Касцёл узгадвае св. Станіслава Костку 18 верасня.

*Кс. Юрый Марціновіч*



# Дзякуем, што дапамаглі Дашы вярнуцца дадому!

***Каля 8-мі месяцаў працягвалася акцыя па зборы грашовых сродкаў на куплю апарата штучнай вентыляцыі лёгкіх для цяжкахворай Дашы Кавалеўскай. У ёй змаглі прыняць удзел і шматлікія чытачы газеты “Слова Жыцця”. У лютым на старонках выдання быў апублікаваны артыкул, дзе гучаў заклік не заставацца раўнадушнымі да чужой бяды, а таксама падаваліся спосабы, якімі можна дапамагчы дзяўчынцы, што доўгі час знаходзіцца ў рэанімацыі Гродзенскай абласной дзіцячай клінічнай бальніцы.***



*Псіхолаг, які наведвае дзяўчынку, адзначае, што Даша расце жыццярадасным дзіцём*

## НІТКА ДА НІТКІ

Кораценька нагадаем гісторыю 2-гадовай Дашы. У 9-месячным узросце дзяўчынцы паставілі дыягназ “спінальная аміатрафія Вердніга-Гофмана”. Хворыя, якім робяць такое медыцынскае заключэнне, маюць цяжкасці з дыханнем, смактаннем і глытаннем.

Больш за год Даша правяла ў рэанімацыі дзіцячай бальніцы, таму што была падключана да апарата штучнай вентыляцыі лёгкіх, які падтрымліваў яе жыццядзейнасць. Каб пакінуць сцены бальніцы, якімі абмяжоўвалася жыццё маленькай дзяўчынкі, такі апарат неабходна мець дома. Але набыць яго ў маладой сям’і магчымасці не было.

У снежні 2017 года Гродзенскі дзіцячы хоспіс распачаў акцыю па зборы сродкаў на куплю апарата пад назвай “Даша, дыхай дома”. Да ўдзелу запрашаліся як асобныя людзі, так і арганізацыі, прадпрыемствы, калектывы навучальных устаноў і інш. Па папярэдніх падліках, калі б толькі 5% жыхароў Гродна ахвяравалі па 2 рублі, то неабходная сума на пакупку апарата была б сабрана. Аднак на просьбу аб дапамозе адгукнуліся не толькі гараджане, але і жыхары іншых гарадоў Беларусі і нават Польшчы.

Многія даведаліся пра гісторыю цяжкахворай дзяўчынкі са СМІ, у тым ліку і з газеты “Слова Жыцця”. Пасля апублікавання артыкула тэлефон у нашай рэдакцыі не сціхаў: дзясяткі нераўнадушных чытачоў прагнулі дапамагчы дзяўчынцы. Сярод адгукнуўшыхся былі і нешматслоўныя мужчыны, што хацелі ахвяраваць сур’ёзныя сумы, і чулыя жанчыны, якія апавядалі пра тое, як таксама сутыкнуліся ў жыцці з няшчасцем і адчулі ў свой час пляча падтрымкі. Кожны званок у рэдакцыі быў аднолькава чаканы і важны. Усе разам разумелі, што крок за крокам набліжаемся да мэты, якая палягала на тым, каб вярнуць Дашу дадому, да бацькоў.

**Ахвяраванні на куплю апарата штучнай вентыляцыі лёгкіх для Дашы Кавалеўскай паступалі падчас шматлікіх дабрачынных мерапрыемстваў, пасродкам прамога залічэння на рахунак Гродзенскага дзіцячага хоспіса або праз тэлефонны званок ці адпраўку СМС. Усяго падчас маштабнай акцыі пад назвай “Даша, дыхай дома” было сабрана 15 919.47 бел. рублёў.**

У канцы мая збор сродкаў быў спынены. Стала вядома, што ў хуткім часе апарат будзе куплены і пасля яго дыягностыкі дзяўчынка зможа трапіць дадому.

## АТРЫМАЛАСЯ!

У жніўні апарат штучнай вентыляцыі лёгкіх для Дашы быў набыты і прывезены ў Гродзенскі дзіцячы хоспіс. З гэтай нагоды ў будынку хоспіса прайшло ўрачыстае мерапрыемства, на якое былі запрошаны бацькі дзяўчынкі, прадстаўнікі СМІ і арганізацый, якія прынялі актыўны ўдзел у акцыі. Мама не стрымлівала слёз удзячнасці і – адначасова цяжка і нібы з палёгкай – змагла прамовіць перад прысутнымі толькі простае “дзякуй”. Але колькі ў адным гэтым слове!

Сёння Даша, якая большую частку свайго жыцця правяла ў бальніцы, не хоча яе пакідаць. “Калі гаворым дачцэ, што хутка паедзем дадому, яна адмоўна ківае галавой. За гэты час Даша папросту забылася, што значыць родныя сцены”, – з горыччу дзеляцца бацькі.

Трэба зазначыць, што Даша, пра якую памятаем з лютаўскага нумара, зрабіла вялікія крокі ў сваім развіцці. “Першапачаткова яна нават не магла падняць рукі, сціснуць пальцы, – распавядае псіхолаг Гродзенскага дзіцячага хоспіса Марыя Бразінская. – Мы разам малявалі, я вадзіла яе руку. Аднойчы, калі дзяўчынка спала, я выйшла да другога дзіцяці. Праз некаторы час вярнулася, стала ля шкляных дзвярэй рэанімацыі і ўбачыла, як Даша адкрыла вочы, заўважыла мяне і памахала рукой. Гэта быў такі прагрэс і такая радасць для ўсіх нас! Даша, якая была такой слабенькай, змагла падняць руку і памахаць. Цяпер яна самастойна трымае пэндзаль. Па-ранейшаму вельмі любіць маляваць. Упадабаныя колеры – чырвоны і жоўты. Ёй яшчэ цяжка гаварыць з-за трахеастомы *(штучнае дыхальнае горла, або спецыяльная трубка, якая хірургічным метадам змяшчаецца ў трахею –* ***заўв. аўт.****)*, але дзяўчынка ўсё разумее і імкнецца паказаць гэта сваім выглядам: настроем, жэстамі, мімікай”.



*З дапамогай Консульства Польшчы ў Гродне дзіцячы хоспіс атрымаў падтрымку з-за мяжы*

Як заўважае дырэктар Гродзенскага дзіцячага хоспіса Вольга Вялічка, “калі пацыент на апараце штучнай вентыляцыі лёгкіх знаходзіцца дома, гэта непараўнальная якасць жыцця”. Як кажуць, дома і сцены лечаць. Ёсць надзея, што Даша дома адаптуецца, адчуе сябе лягчэй і ўжо не будзе мець пастаяннай неабходнасці ў тым, каб быць падключанай да апарата. Такія прагнозы робяцца на падставе падобнай гісторыі, якая здарылася з Машай Кара. Пасля таго, як дзяўчынка трапіла з бальніцы дадому, яе стан значна палепшыўся. Сёння патрэба ў падключэнні яе да апарата абмяжоўваецца некалькімі гадзінамі.

**На дадзены момант у Гродне 2 дзіцяці знаходзяцца дома на апараце штучнай вентыляцыі лёгкіх. Хутка гэта лічба павялічыцца з-за таго, што дадому адправіцца Даша Кавалеўская.**

Дырэктар Гродзенскага дзіцячага хоспіса Вольга Вялічка адзначае, што яны не сумняваліся ў паспяховасці акцыі. Ужо не першы раз праводзяць падобныя дабрачынныя мерапрыемствы: “Мы ўвесь час замахваліся на тое, на што ў нас не было грошай. Дзякуючы людзям добрай волі ўсё заўсёды атрымліваецца”.

Грашовыя сродкі, што засталіся ад пакупкі апарата, перададзены сям’і на далейшую рэабілітацыю дзяўчынкі. Апарат ужо сёння тэсціруюць у бальніцы. Пасля таго, як бацькі навучацца ім карыстацца, яго ўсталююць дома. Такім чынам, дзіцячая мара спраўдзіцца і сям’я зноў з’яднаецца.

**У лістападзе Дашы споўніцца 3 гады. Гэта будзе першы Дзень нараджэння, які дзяўчынка адсвяткуе дома, з бацькамі. І я хачу, каб Ты ведаў, Чытач, што ў гэтым і Твая вялікая заслуга, таму што адгукнуўся сэрцам і не змог раўнадушна прайсці міма чужой бяды. Дзякуючы такім людзям, як Ты, свет становіцца крышачку лепшым.**

**Няхай Бог аддзячыць кожнаму з Вас!**

*Ангеліна Пакачайла*

---

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### *Папа Францішак*



*Хрыстос сапраўды хоча выкрыць кніжнікаў і фарысеяў з-за памылкі пазбягання волі Бога, у якую яны ўпалі, не захоўваючы Яго запаведзі, а выконваючы традыцыі, створаныя чалавекам. Рэакцыя Езуса вельмі суровая, таму што гаворка ідзе пра вялікую стаўку: пра сапраўднасць адносін паміж чалавекам і Богам, аўтэнтычнасць рэлігійнага жыцця. Крывадушнік з’яўляецца падманшчыкам, ён не аўтэнтычны.*

*Таксама і сёння Пан заклікае нас пазбягаць небяспекі, якой з’яўляецца надаванне большай увагі форме, чым сутнасці. Ён заклікае нас заўсёды нанова прызнаваць тое, што з’яўляецца сапраўдным цэнтрам досведу веры – любоў да Бога і любоў да бліжняга, ачышчаючы яе ад крывадушша рытуальнасці і фармальнай правапаслухмянасці. […] Не павінна быць знешняе стаўленне, але ўнутранае: неабходна сачыць за тым, каб наш спосаб мыслення і дзеяння не забруджваўся свецкім менталітэтам, гэта значыць ганарыстасцю, прагнасцю і пыхай. На самой справе, жанчына ці мужчына, які жыве ў ганарыстасці, прагнасці і пысе і паказвае сябе рэлігійным чалавекам, калі пачынае асуджаць іншых, з’яўляецца крывадушнікам.*

*Фрагмент прамовы падчас малітвы “Анёл Панскі” ў Ватыкане, 02.09.2018*

### *Кс. бп Аляксандр Кашкевіч*



*Мы нічога не ведаем пра вечную радасць у Небе, наш розум не здольны ахапіць гэтую звышнатуральную рэчаіснасць, а ўсё, што мы можам на дадзеную тэму ўявіць, з’яўляецца толькі сурагатам Неба, “Небам, уяўленым па-зямному”. Таму св. Павел гаворыць: “Ні вока не бачыла, ні вуха не чула, ні сэрца чалавечае не змагло пазнаць, якія вялікія рэчы падрыхтаваў Бог тым, хто на Яго спадзяецца” (1 Кар 2, 9).*

*Мы замала думаем пра Неба, таму замала працуем над паглыбленнем сваёй веры. Скажам сабе шчыра: калі б мы ўвесь час памяталі, што нашым прызначэннем з’яўляецца вечнае жыццё з Богам, напэўна, шмат нашых думак, слоў, рашэнняў, учынкаў былі б іншымі. Напэўна, мы інакш паводзілі б сябе ў многіх сітуацыях, па-іншаму ўспрынялі б не адну асобу, іншымі вачыма глядзелі б на саміх сябе, на сваіх бліжніх і на навакольны свет.*

*Няхай нашыя сэрцы будуць чулымі, адчувальнымі на Божы голас, успрымальнымі да збаўчага ўздзеяння Яго ласкі! Няхай вызнаваемая вера будзе святлом, якое праз змрок мінучасці прывядзе нас у краіну вечнага шчасця!*

*Фрагменты гамiлii, прамоўленай падчас св. Імшы ў касцёле Унебаўзяцця НПМ у Лідзе, 15.08.2018*




◆ Касцёл у Бразіліі прыняў асноўны дакумент аб евангелізацыі, распрацаваны ў Форталеза падчас сустрэчы прэзідыума епіскапата з 82-ма біскупамі паўночнай часткі краіны. У ліку важнейшых пытанняў, якія былі закрануты, – знак пашаны да характэрных рысаў народнай рэлігійнасці, адкрытасць на экуменічны дыялог, талерантнасць у міжканфесійных адносінах. У дакуменце падкрэсліваецца, што Касцёл у Бразіліі павінен стаць больш місіянерскім, атаясамліваючыся з беднымі, і абараняць людзей, якія пакутуюць ад усякага роду прыгнёту, незалежна ад таго, палітычнае яно, эканамічнае або рэлігійнае.

◆ Кляштар св. Тэклі ў Маале (Сірыя), размешчаны ў 50-ці км на паўночны ўсход ад Дамаска, зноў адкрыты. Работы па яго аднаўленні працягваліся з 2014 года і ўжо набліжаюцца да свайго фінальнага этапа. Да таго, як горад быў акупіраваны, кляштар з'яўляўся галоўным месцам паломніцтва для хрысціян у краіне. У снежні 2013 года фундаменталісты ісламскай дзяржавы выкралі 13 сясцёр разам з 3-ма работнікамі. На шчасце, усіх выкрадзеных адпусцілі на тэрыторыі Лівана, які разам з Катарам быў пасярэднікам у справе вызвалення заложнікаў. Маюцца звесткі, што манахіні ўжо вярнуліся ў кляштар.

◆ Семінарыю св. Малахія ў Белфасце (Ірландыя) зачынілі. Гэта была адзіная семінарыя ў краіне. Непасрэднай прычынай падзеі стала ліквідацыя Інстытута схаластычнай філасофіі ў Каралеўскім універсітэце ў Белфасце, дзе праходзілі заняткі ў клерыкаў. Улады дыяцэзіі паведамілі, што факт закрыцця Інстытута выклікае адсутнасць магчымасці адпаведнай падрыхтоўкі кадраў па філасофіі. Існуючыя клерыкі будуць пераведзены ў іншыя, бліжэйшыя семінарыі.

◆ У Рыме (Італія) плануецца ўзвесці першы касцёл пад тытулам св. Яна Паўла ІІ. Ён спраектаваны брытанскімі архітэктарамі. Паўстане ў раёне Гарбатэла на тэрыторыі колішніх выставачных залаў. Будаўніцтва мае быць завершана праз 3 гады. Новы касцёл будзе не толькі чарговай парафіяй, але і важнай кропкай адліку для студэнтаў і моладзі, а таксама мэтай наведвання для пілігрымаў з усяго свету, якія прыбываюць у гэты раён горада з базілікі св. Паўла за Мурамі.

◆ Французскі тэлеканал грамадскага вяшчання “France 2” зняў дакументальны фільм пад назвай “Царква – гэта жанчына”. У ліку яго герояў – прэзідэнт ватыканскай педыятрычнай лякарні “Bambino Gesù”, рэктар Папскага ўніверсітэта “Antonianum”, дырэктар дадатку “Жанчыны, Царква, свет” ватыканскага часопіса “L'Osservatore Romano”. У фільме асвятляецца роля жанчын у Касцёле праз сведчанні тых, хто займае высокія пасады ў органах Святога Прастола.

credo.pro; wiara.pl; pch24.pl

# Мучаніцы з Навагрудка – каштоўны і нятленны скарб


Апостальскі нунцый у Беларусі абп Габар Пінтэр узначальвае св. Імшу на заканчэнне ўрачыстасці

працяг са с. 1

## УРАЧЫСТАСЦІ Ў ГОНАР БЛАСЛАЎЛЁНЫХ

З нагоды 75-годдзя мучаніцкай смерці 11-ці бласлаўлёных сясцёр назарэтанак у Навагрудку прайшлі памятныя мерапрыемствы. 28 ліпеня ў Батароўскім лесе – на месцы расстрэлу манахінь – адбылася св. Імша, падчас якой прысутныя дзякавалі Пану за дар бласлаўлёных мучаніц для Касцёла на Гродзеншчыне і Касцёла ў Беларусі. Праз іх заступніцтва ўдзельнікі Імшы прасілі Бога аб ласцы глыбокай, моцнай веры, адвагі, сапраўднай любові да Яго і бліжніх для саміх сябе, сваіх сем'яў, супольнасцей, да якіх належаць. Таксама маліліся за народы, якія перажываюць войны і тэрарыстычныя замахі, за краіны, дзе адбываюцца ўнутраныя канфлікты, каб насілле і нянавісць саступілі месца паяднанню і прабачэнню.

На месца, якое было акроплена крывёю мучаніц, пасля 7-ці дзён шляху прыбыла група пілігрымаў з Гродна. У пешай пілігрымцы прыйшлі таксама вернікі Пінскай дыяцэзіі з Новай Мышы, даехалі на веласіпедах паломнікі з Краманіцы (дэканат Ваўкавыск). Прысутнічалі і прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса, мясцовых органаў дзяржаўных улад, святары, манаскія сёстры і вернікі з розных мясцін нашай краіны і з замежжа. Ушанаваць гераічны подзвіг сваіх папярэдніц прыбылі шматлікія манахіні з Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта на чале з генеральнай настаяцельніцай с. Янай Завеяй.


Удзельнікі ўрачыстасці ўшаноўваюць рэліквіі бласлаўлёных мучаніц

Св. Імшу ў лесе, дзе 75 гадоў таму разгарнуліся драматычныя падзеі, узначаліў абп Тадэвуш Война, Мітрапаліт Беластоцкі (Польшча). Разам з ім Эўхарыстыю канцэлебравалі Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі абп Тадэвуш Кандрусевіч, біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі, дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі і апостальскі візітатар для грэкакатолікаў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек.

Звяртаючыся да сабраных з гаміліяй, кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч адзначыў, што “гэты прыгожы лес стаў Кальварыяй, на якой сёстры па прыкладзе Езуса ахвяравалі сваё жыццё за бліжніх. Гэтае месца заклікае нас да новага асэнсавання Божага закона аб любові да бліжняга, каб пазбегнуць падобных трагедый. Мы рэалізуем вобраз Бога ў сабе, калі любім бліжняга, прабачаем яго правіны, баронім жыццё ад зачацця да натуральнай смерці, умацоўваем мір і справядлівасць у свеце, дбаем пра годнасць чалавека... Праз нас Бог уваходзіць у гісторыю, каб сваёй ласкай і супакоем напоўніць зямлю”.

Іерарх падкрэсліў, што страшная трагедыя, якая здарылася тут шмат гадоў таму, заклікае ўсіх да рахунку сумлення з любові да бліжняга і да веры. А пацвердзіць гэта, па словах арцыбіскупа, магчыма толькі сведчаннем свайго жыцця паводле вучэння і прыкладу Хрыста.

Па словах арцыпастыра, успамінаем падзеі 75-гадовай даўнасці не для таго, каб разрываць загоеныя раны і пасыпаць іх соллю, але для таго, каб на памылках мінулага выхоўваць новыя пакаленні і каб падобнае ніколі не паўтарылася.

Падчас Эўхарыстыі сабраныя маліліся таксама аб беатыфікацыі с. Малгажаты Банась – 12-ай назарэтанкі з Навагрудка, якая пазбегла мучаніцкай смерці.

Пасля Імшы прысутныя мелі магчымасць асабіста ўшанаваць рэліквіі бласлаўлёных назарэтанак.

## ФАРНЫ КАСЦЁЛ У НАВАГРУДКУ АТРЫМАЎ СТАТУС САНКТУАРЫЯ

Урачыстае абвяшчэнне касцёла Перамянення Пана санктуарыем бл. Марыі Стэлы і 10-ці яе паплечніц адбылося 29 ліпеня на заканчэнне ўрачыстасцей 75-годдзя мучаніцкай смерці манахінь. У св. Імшы, якую ўзначаліў Апостальскі нунцый у Беларусі абп Габар Пінтэр, прынялі ўдзел шматлікія духоўныя і свецкія асобы, а таксама манахіні з Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта.

На распачацце ўрачыстасці да сабраных звярнуўся кс. бп Аляксандр Кашкевіч. Іерарх распавёў пра веліч ахвяры бласлаўлёных манахінь і падзякаваў Богу за дар сясцёр мучаніц для Касцёла: “Здаецца, што ніхто выключна ўласнымі сіламі не здольны адважыцца на такую гераічную любоў. Аднак гісторыя ведае прыклады мучанікаў, якія, умацаваныя Божай ласкай, здолелі дасягнуць вяршыні святасці на шляху менавіта такой бязмежнай любові да бліжняга, як ахвяра ўласнага жыцця. Да ліку герояў веры належаць і бласлаўлёныя сёстры мучаніцы з Навагрудка”.

Затым прысутных прывітаў кс. абп Габар Пінтэр. У гаміліі прадстаўнік Святога Айца таксама падкрэсліў моц ахвярнай любові: “Сёння перамога мучанікаў і іх сведчанне моцай Бога працягваюць прыносіць плён у Беларусі, у Касцёле, які атрымлівае ўзмацненне ад іх ахвяры”. Іерарх дадаў, што сёстры сярод тэрору вайны праз малітву, ахвяру і салідарнасць раздзялілі лёс праследаваных людзей. Бог паклікаў усю іх супольнасць да асаблівай місіі. Аб'яднаныя любоўю, яны разам пайшлі на смерць і разам былі ўзнесены да хвалы алтара.

Найбольш кранальнай часткай св. Імшы стала працэсія з дарамі. Падчас яе ўдзельнікі шэсця склалі на алтар Пана, між іншым, сцяг навагрудскай школы, дзе служылі загінуўшыя сёстры назарэтанкі. Яго прынеслі былыя навучэнцы сясцёр мучаніц, якія прыбылі на ўрачыстасць, каб ушанаваць выхавацельніц. Сваёй прысутнасцю яны ажывілі ўспаміны пра бласлаўлёных манахінь, дазволіўшы вернікам дакрануцца да вялікай гісторыі.

Новы санктуарый, дзе змешчаны рэліквіі мучаніц, стане месцам асаблівай памяці, абвяшчэння і перадачы наступным пакаленням


У “Белай Фары”, куды сёстры хадзілі на малітву, сёння захоўваюцца іх астанкі

сведчання гераічнай любові да Бога і бліжняга, якое сёстры назарэтанкі з Навагрудка склалі ў часы ІІ Сусветнай вайны. Прыклад бласлаўлёных манахінь і іх бязмежная вернасць Хрысту Пану і Яго Евангеллю павінны ўзбудзіць у сэрцах сучасных хрысціян жаданне супрацоўніцтва з Божай ласкай і нястомнага ўзрастання ў асабістай святасці.

## ПА ПРЫКЛАДЗЕ БЛАСЛАЎЛЁНЫХ СЯСЦЁР

Сёстры назарэтанкі, якія зараз служаць у Навагрудку, працягваюць справу бласлаўлёных мучаніц. Яны займаюцца апостальскай дзейнасцю, катэхізацыяй, працуюць закрыстыянкамі, выпякаюць аплаткі і гостыі, як іх папярэдніцы, служаць сем'ям і такім чынам рэалізуюць сваю харызму – пашыраюць Валадарства Божай любові.

“Бласлаўлёныя назарэтанкі склалі сябе ў ахвяру за сем'і, – гаворыць с. Назарыя Міклаш. – У сучасным свеце сужэнствы таксама знаходзяцца ў небяспецы. І хоць праблемы, з якімі яны сутыкаюцца, ляжаць зусім у іншай плоскасці, чым раней, яны з'яўляюцца не менш важнымі і патрабуюць вырашэння. Мы стараемся быць руплівымі і ахвярнымі ў сваім служэнні сем'ям: спяшаемся з дапамогай усім патрабуючым і дапамагаем ім у вырашэнні складаных жыццёвых сітуацый. Арганізоўваем сустрэчы і рэкалекцыі, апекуемся Таварыствам імя Найсвяцейшай Сям'і, а таксама аказваем малітоўную падтрымку сем'ям і выпрошваем для іх патрэбныя ласкі”.

С. Назарыя таксама адзначае, што назарэтанкі з Навагрудка прыкладваюць шмат намаганняў дзеля таго, каб памяць аб сёстрах мучаніцах жыла, а іх культ няспынна пашыраўся. Яны гасцінна сустракаюць пілігрымаў і турыстаў, знаёмяць іх з фарным касцёлам і распавядаюць гісторыю бласлаўлёных манахінь.

“Навагрудскую фару на працягу года наведвае шмат людзей. Яны абавязкова заходзяць у бакавую капліцу, дзе ў саркафагу знаходзяцца рэліквіі мучаніц, і давяраюць іх заступніцтву свае сем'і, радасці і смуткі, просяць апекі, бо вераць, што будуць выслуханы”, – падкрэслівае манахіня.

*Кс. Юрый Марціновіч, Кінга Красіцкая*


Памятны здымак пілігрымаў на месцы мучаніцтва сясцёр

● працяг са с. 1



# “Я хадзіла сцежкамі блаславёных мучаніц, вобраз кожнай нашу ў сваім сэрцы...”

*На сценах доўгага кляштарнага калідора ў Навагрудку змешчаны табліцы, якія апавядаюць пра блаславёных сясцёр мучаніц. З кароткіх сказаў складваецца цудоўны вобраз назарэтанак: сардэчныя, добрыя, цярплівыя, старанныя, з моцнай верай і даверам да Божых планаў.*

*Іх імёны, манера паводзін, прыклад любові, мацнейшай за смерць, засталіся ў памяці мноства людзей. У сённяшнім нумары “Слова Жыцця” с. Тэрэза Касінская расказвае пра прысутнасць блаславёных сясцёр у яе жыцці і пра ролю, якую яны адыгрывалі ў Навагрудку.*



Першакамунійныя дзеці разам з сёстрамі, 1931 год

## Дзіцячыя ўспаміны

Я нарадзілася ў Наваельні. Але колькі сябе памятаю, мы жылі ў Навагрудку. Будучы малой дзяўчынкай, ведала сясцёр толькі ў твар: сустракала іх у касцёле ці на вуліцы. Потым пачала хадзіць у Агульную школу сясцёр назарэтанак і ўжо штодзённа сустракалася з манахінямі, а таму мела магчымасць пазнаёміцца з імі бліжэй. Дагэтуль памятаю твар, фігуру і нават голас кожнай з сясцёр.

Вельмі выразныя ўспаміны звязаны з с. Канізіяй, якая вучыла дзяцей спяваць. Адным з нашых самых любімых твораў была песенька пра верабейкаў, падчас якой мы з сяброўкай выконвалі рытмічны танец з кійкамі. Часта сустракаліся з сястрой таксама ў касцёле, бо яна была арганісткай. Калі думаю пра яе, перад вачыма заўсёды ўзнікае такая карціна: манахіня ідзе праз касцёл, нясе спеўнікі і ключы ад хораў.

С. Канізія была адзінай настаўніцай сярод сясцёр. Астатнія назарэтанкі займаліся іншай працай: с. Раймунда прыбіралася ў школе, с. Даніэла клапацілася аб дзіцячай сталовай, с. Геліадора выконвала абавязкі брамніцы. Яшчэ добра памятаю с. Імэльду, якая была закрыстыянкай. Гэта яна засцілала алтар белым абрусам, упрыгожвала святыню кветкамі, запальвала свечкі.

Назаўсёды ў маёй памяці засталася с. Даніэла. Яна збірала зёлкі і брала нас, дзяцей, з сабой. Мы хадзілі з ёй на Замкавую гару. Сястра расказвала, якія расліны карысныя, якія – лекавыя, пералічвала іх назвы. Памятаю, што спачатку мы збіралі зёлкі побач з замкам, потым праходзілі праз парк, затым праз кусты і даходзілі ажно да дамоў, дзе жылі спадарствы Зверкі і Дабрынскія. Гаспадары часам частавалі нас чарніцамі і малаком.

Усіх сясцёр я запомніла як вельмі працавітых асоб. Яны ўтрымлівалі немалую гаспадарку: мелі кароў, каня, разнастайную хатнюю птушку. Акрамя гэтага пралі, вязалі. Шмат працы мелі таксама ў касцёле, бо павінны былі падтрымліваць парадак.

На зямлі за кляштарам сёстры назарэтанкі мелі агарод, дзе садзілі бульбу, капусту, буракі і іншую агародніну. Мой швагер, які жыў па суседству, расказваў, што яго сям'я заўсёды прыглядвалася да таго, як сёстры гаспадарылі. Дзякуючы сваёй працавітасці манахіні за лета тройчы збіралі сена з лугу. У вялікай бочцы разводзілі адпаведнае ўгнаенне, а затым, калі трава ўжо была скошана, адна з сясцёр ехала праз луг на кані з гэтай бочкай і ўсё дасканала апырсквала, каб маладая трава хутчэй расла.

Я таксама трохі дапамагала назарэтанкам: калі яны апрацоўвалі глебу, пільнавала птушак і жывёлу, каб не нарабілі шкоды ў агародзе. Дакладна памятаю, што пасля працы манахіні ішлі на абед у гаспадарчы домік. Кухняй кіравала с. Канута. Ежу гатавала ў вялікіх чыгунах. Сёстры падыходзілі да яе з талеркамі па суп, затым затрымліваліся ля століка, на якім ляжалі абрэзкі ад камунікантаў, якія пяклі самі. Гэтыя абрэзкі яны насыпалі ў суп і накіроўваліся з талеркамі абедаць за дзверы з белай заслонай. Там была клаўзура, таму ніхто іншы не мог туды ўвайсці.

## Жыццё пад акупацыяй

У 1939 годзе, пасля ўступлення савецкіх войскаў, у Навагрудку адбыліся сур'ёзныя змены. Сясцёр выгналі са школы, трохі пазней – з дому. Яны жылі ў прыватных кватэрах і вымушаны былі шукаць працу. Манахіням забаранілі насіць хабіты, таму яны былі заменены на простыя сукенкі. Назарэтанкі падтрымлівалі паміж сабой сувязь праз касцёл: сустракаліся на св. Імшы і Ружанцы. Таемна рыхтавалі дзяцей да споведзі і св. Камуніі. З цягам часу людзей у горадзе станавілася ўсё менш, таму што адбываліся масавыя дэпартацыі ў Сібір і Казахстан. Аднак вернікі надалей у вялікай колькасці прымалі ўдзел у набажэнствах.

У 1941 годзе распачалася нямецкая акупацыя. Чэрвеньская бамбардзіроўка горада амаль не закранула Фару, але значна пашкодзіла касцёл св. Міхала Арханёла. Падчас адного з налётаў с. Малгажата ішла на дзяжурства ў мясцовую бальніцу (працавала ў хірургічным аддзяленні). Калі выбухнулі бомбы, манахіня пачала шукаць схованку, але адзінае, што яна ўбачыла перад сабой – высокі плот, які агароджваў месца будоўлі. С. Малгажата са страху пераскінула праз яго сваю сумку і пераскочыла сама. Упала на дошку з цвікамі, прабіла сабе нагу, а асколак бомбы трапіў ёй у лоб. Калі апрытомнела, была ўся ў крыві. Хтосьці з мінакоў завёў жанчыну дадому. Пра гэты выпадак прыгадвае здымак у кляштары, на якім сястра адлюстравана з перавязанай галавой.

Пасля таго, як у горад уступілі нямецкія войскі, з'явіліся новыя правілы: сёстрам дазвалялася насіць хабіты, хадзіць у касцёл, апрацоўваць зямлю. У хуткім часе пачаўся тэрор супраць грамадзянскага насельніцтва. 31 ліпеня 1942 года ў лесе побач з баракамі расстралялі 60 чалавек, сярод якіх было двое ксяндзоў: кс. дэкан Міхал Далецкі і кс. Ян Кучынскі з Уселюба.

## Складзеная ахвяра

Праз год, ноччу з 17 на 18 ліпеня, было арыштавана каля 120-ці чалавек (у большасці сваёй бацькі сем'яў) з намерам іх расстраляць. Тады с. Стэла, якая выконвала абавязкі настаяцельніцы, падчас сустрэчы з кс. Аляксандрам Зянкевічам прамовіла знамянальныя словы: “Божа мой, калі патрэбна ахвяра жыцця, хай лепш нас расстраляюць, чым тых, у каго ёсць сем'і. Мы нават молімся аб гэтым”.

31 ліпеня сясцёр назарэтанак выклікалі ў камісарыят. Пасля вячэрняга Ружанца манахіні на чале з настаяцельніцай накіраваліся па ўказаным адрасе. На дарозе сустрэлі с. Малгажату, якая акурат вярталася з бальніцы. С. Стэла наказала ёй ісці додому, а калі будзе такая патрэба, за ёй прышлюць кагосьці з сясцёр.

Кс. Зянкевіч разам з с. Малгажатай чакалі манахінь у гаспадарчым доміку. Мінула гадзіна, дзве, поўнач, але ніхто не прыходзіў. Пачало світаць, а сёстры не вярталіся.

Нядзельнай раніцай кс. Аляксандр адправіў у Фары св. Імшу, пасля чаго накіраваўся ў касцёл св. Міхала Арханёла. Калі сядзеў у канфесіянале, хтосьці падышоў да яго і сказаў, што сясцёр расстралялі. Вядома, што каты планавалі забіць манахінь у той самы дзень, калі выклікалі ў камісарыят. Іх вывезлі ў бок баракаў, але на дарозе было яшчэ дастаткова людна, таму гестапаўцы вярнуліся назад. Сёстры правялі ноч у падвале ў кацельні, а на досвітку былі вывезены ў лес, дзе іх і расстралялі.

Праз некалькі дзён пасля трагедыі с. Малгажата накіравалася ў бальніцу на дзяжурства і ўбачыла, як ваенны канваіруе воз, дзе ляжаць рэчы сясцёр. Салдат пазнаў с. Малгажату і адразу спытаўся, куды яна ідзе. Тая адказала, што на працу. Тады мужчына перасцярог яе, каб не хадзіла ў бальніцу. І манахіня вярнулася. Галоўны ўрач змяніў план дзяжурстваў, выкрэсліваючы прозвішча назарэтанкі, каб гестапаўцы не натрапілі на яе след.

Пазней с. Малгажата разам з некалькімі жанчынамі выбралася ў лес, нібы па грыбы. На самой справе яны хацелі адшукаць магілу сясцёр. Натрапіўшы на свежую зямлю, манахіня пачала разграбаць пясок. Знайшла цела адной з сясцёр і адарвала падвязку, такім чынам упэўніваючыся, што на гэтым месцы сапраўды спачываюць назарэтанкі.

## Напалову ўтоена

Асірацелая с. Малгажата некаторы час жыла ў гаспадарчым доміку. Аднойчы, калі працавала ў агародчыку, па яе прыйшлі гестапаўцы. Аднак паблыталі дамы і трапілі да суседкі, дзе адбылася наступная сцэна. Калі гестапаўцы спыталіся пра манахіню, жанчына закрычала: “Суседка, ці ты не бачыла с. Малгажату?”. Назарэтанка падняла галаву ад градкі, убачыла, што стаяць нейкія незнаёмцы, і адказала: “Недзе тут была...”. “Была, але ўжо няма”, – сказала суседка. І гестапаўцы пайшлі ні з чым.

Так назарэтанка засталася пры жыцці. Яна надалей жыла ў тым жа доміку. Не мусіла ўжо спецыяльна хавацца, магла свабодна хадзіць у касцёл.

## Сёстры вяртаюцца ў Фару

Пад канец вайны кс. Аляксандр Зянкевіч пачаў дабівацца дазволу на эксгумацыю і пахаванне расстраляных. З магілы дасталі 12 цел, хоць сясцёр было 11. Апошняй ахвярай стаў хлопец, які, праўдападобна, капаў дол. А расстралялі яго, каб пазбавіцца ад сведкі.

19 сакавіка 1945 года адбылося пахаванне 11-ці сясцёр мучаніц. Парэшткі змясцілі ў асабістых трунах і на санях перавезлі ў святыню. Кс. Аляксандр паклапаціўся пра тое, каб у кожную труну паклалі запячатаную бутэлечку з карткай унутры, на якой напісана імя і дата смерці.

Сясцёр пахавалі ў супольнай магіле побач з Фарай, паставілі драўляны крыж і неацёсаны камень.



Працэсія з трунамі 11-ці назарэтанак, эксгумаваных з лясной магілы, у Фару

## Разам да канца

У 1946 годзе, калі многія палякі, у тым ліку кс. Зянкевіч, вярталіся ў Польшчу, у Навагрудак прыехалі некалькі манахінь з Вільнюса і прапанавалі с. Малгажаце вярнуцца ў краіну. Аднак тая адказала: “Я застануся тут назаўсёды. Павінна была загінуць разам з сёстрамі! Аднак калі Пан Бог выратаваў мяне, то буду трываць на варце Божага дома і магілы сясцёр”.

На працягу наступных 10-ці гадоў у Навагрудку не было святара. С. Малгажата жыла ў складаных умовах у закрыстыі, дзе ў яе быў ложак за шафай, невялічкая печачка, каб вытрымаць моцныя маразы. Клапацілася пра Фару і ў першую чаргу пра тое, каб там заўсёды быў Найсвяцейшы Сакрамант. Адчыняла святыню кожную нядзелю і на набажэнствы, каб людзі маглі прыйсці і памаліцца. Жыхары горада таксама прыходзілі да сястры са сваімі праблемамі, паколькі ў кожнай справе яна ахвотна давала добрую параду.

Праз некаторы час з лагера вярнуўся кс. Войцех Навачык OMI. С. Малгажата гаспадарыла пры ім на працягу чарговых 10-ці гадоў. Памерла пасля цяжкай хваробы 26 сакавіка 1966 года. Была пахавана на мясцовых могілках.

*Кінга Красіцкая*




Catholic.by

### Фігура Маці Божай з Фацімы адправіцца ў Панаму

***Яна будзе дастаўлена ў лацінаамерыканскую краіну з нагоды Сусветных дзён моладзі, якія пройдуць у 2019 годзе.***

*Скульптурная выява Найсвяцейшай Панны Марыі апошні раз пакідала Партугалію ў 2000 годзе. Дагэтуль яе перэгрынацыя праходзіла ў 64-ох краінах свету.*

*Даставіць арыгінальную фігуру ў Панаму было вырашана ў сувязі з тым, што вялікую пашану да Маці Божай Фацімскай меў св. Ян Павел II – ініцыятар Сусветных дзён моладзі, а таксама з прычыны шырокай распаўсюджанасці Яе культу сярод вернікаў Панамы.*

CatholicNews.by

### Ва Украіне з'явіўся Мемарыял пакутнікаў за веру

***Помнік створаны ў знак павагі да тых хрысціян, якія засталіся вернымі і не адракліся ад сваёй веры.***

*Мемарыял будзе не толькі месцам памяці, але і навучальнай установай, у якой моладзь і іншыя наведвальнікі змогуць атрымліваць інфармацыю аб нядаўнім праследаванні Касцёла ва Украіне і аб тых верніках, якім цяпершняе пакаленне абавязана свабодай веравызнання.*

*“Гэта сучасная форма прэзентацыі жыцця і дзейнасці католікаў у часы камуністычных ганенняў. У калекцыях мемарыяла сабрана шмат помнікаў, якія звязаны з іх жыццём, працай, зняволеннем і мучаніцкай смерцю”, – гаворыцца ў паведамленні адміністрацыі мемарыяла.*




### Сусветны цэнтр міру адкрыты ў Непакалянаве

***Гэта адзінае месца ў Польшчы і адно з 12-ці ў свеце, якое належыць да 12-ці зорак у Кароне Марыі Каралевы Супакою – 12-ці асяродкаў малітвы за мір, у якіх будуць знаходзіцца капліцы вечнай адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту, т. зв. Капліцы супакою.***

*Цэнтральнай часткай алтара ў капліцы ў Сусветным цэнтры малітвы аб супакоі ў Непакалянаве з'яўляецца постаць Беззаганнай Марыі ў натуральную велічыню з раскрытымі ў жэсце запрашэння далонямі. Эўхарыстычны Хрыстос знаходзіцца пад сэрцам Марыі, у вялікай 20-сантыметровай асвечанай Гостыі, бачнай з-пад расхінутых шатаў. Вакол сярэбранай постаці Маці Божай сплецены вянок з лілій натуральнай велічыні, што сімвалізуе чыстасць і Беззаганнае Зачацце Марыі.*



## Ці можна ў касцёле кленчыць на адно калена?

*Пра ўкленчванне і паклоны мы можам даведацца з Агульных уводзін да Рымскага Імшала для дыяцэзій у Беларусі.*

*Варта заўважыць, што на адно калена толькі прыкленчваем, а не кленчым доўга. Укленчванне, якое адбываецца праз згінанне правага калена да зямлі, азначае пакланенне. Таму яно прызначаецца Найсвяцейшаму Сакраманту і Святому Крыжу ў перыяд ад урачыстай адарацыі падчас літургіі на ўшанаванне Мукі Пана ў Вялікую пятніцу аж да пачатку Пасхальнай вігіліі. Цэлебруючы Імшу, святар кленчыць пасля паднясення Гостыі, пасля паднясення келіха і перад Камуніяй.*

*Калі ў прэзбітэрыі ёсць табернакль з Найсвяцейшым Сакрамантам, святар, дыякан і іншыя, хто прыслугоўвае, кленчаць, калі падыходзяць да алтара альбо адыходзяць ад яго (але не падчас самой цэлебрацыі Імшы). У іншых выпадках усе кленчаць, калі праходзяць перад Найсвяцейшым Сакрамантам, але не ідуць у працэсіі. Тыя, хто прыслугоўвае, хто нясе працэсійны крыж альбо свечкі, не кленчаць, а толькі схіляюць галаву.*

*Паклон азначае ўшанаванне і павагу, якую аддаюць самім асобам альбо таму, што іх азначае ці выяўляе. Ёсць 2 віды паклонаў: схіленне галавы і схіленне ўсяго цела.*

*Галаву схіляюць тады, калі разам называюцца 3 Боскія Асобы, а таксама імя Езуса, Найсвяцейшай Панны Марыі і святога, у гонар якога цэлебруецца Імша.*

*Схіленне ўсяго цела, альбо нізкі паклон, робіцца перад алтаром; падчас малітваў "Усемагутны Божа, ачысці сэрца маё і вусны мае" і "Прымі, Пане Божа, нас"; пры вызнанні веры на словы: "І ўцелавіўся"; у Рымскім каноне на словы: "Пакорна просім Цябе". Такі ж паклон робіць дыякан, калі просіць бласлаўлення перад абвяшчэннем Евангелля. Апрача таго, святар крыху схіляецца пры кансэкрацыі, калі прамаўляе словы Пана.*

*Трэба таксама адрозніваць кленчанне ад укленчвання. Падчас укленчвання вернік становіцца на правае калена і не чыніць ніякіх жэстаў, напрыклад, знак Святога Крыжа.*

*Кленчанне на двух каленях – гэта жэст пашаны Эўхарыстычнаму Хрысту. Варта памятаць: калі ўкленчваю, то кланяюся, калі кланяюся, то не ўкленчваю. Няма патрэбы дубляваць жэсты, бо наша любоў і пашана Пану Богу выражаецца праз укленчванне або праз паклон. Дарэчы, у літургіі паклон з'яўляецца больш старажытным жэстам за ўкленчванне, якое ўвайшло ў літургію як знак пакаяння і перапрашэння, а таксама падчас распаўсюджвання культу Хрыста, прысутнага ў Найсвяцейшым Сакраманце.*

*Неўкленчванне і няклянчанне не з'яўляецца грахом, аднак паказвае на недахоп культуры чалавека.*

*А. Аляксандр Махнач SP*
***Паводле catholicnews.by***

# ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ ГІСТОРЫІ ЛЕТНЯГА АДПАЧЫНКУ

У канцы ліпеня рэдакцыя "Слова Жыцця" аб'явіла конкурс на цікавы аповед пра свае канікулы з Богам. Сёння на старонках выдання падводзім яго вынікі. Увазе чытачоў прапануюцца працы, якія будуць адзначаны прызамі.




У ліпені моладзь з парафіі св. Міхала Арханёла ў Навагрудку (але не толькі) адправілася ў незвычайнае падарожжа на байдарках па рацэ Нёман з Любчы да маста, які знаходзіцца непадалёк Іўя. Напачатку адбыўся інструктаж бяспечных паводзін на вадзе і супольная малітва.

Сама выправа заняла каля 8-мі гадзін. Удзельнікі падарожжа ў складзе 9-ці чалавек пераадолелі разам каля 40-ка кіламетраў. Усё для гэтага склалася найлепшым чынам: добрае надвор'е, свабодныя байдаркі і магчымасць іх транспартавання да месца адпраўлення і прыбыцця.



***Марк Крывіцкі***

*"Для мяне асабіста гэта быў незабыўны досвед. Уразіла фантастычная, багатая прырода нашай краіны, а таксама пачуццё гармоніі з прыродай. Такія выправы, мне здаецца, яднаюць людзей. Гэта вельмі класна".*



***Данііл Сакевіч***

*"Я плаваў на байдарцы першы раз у жыцці! Ды яшчэ на такую вялікую дыстанцыю... Быў у захапленні ад нашай каманды і атмасферы, якая панавала падчас падарожжа па Нёмане".*

Хочацца скіраваць словы асаблівай падзякі ўсім, хто прычыніўся да арганізацыі гэтага цудоўнага падарожжа. Няхай добры Бог Вам за ўсё аддзячыць.

*Кс. Юрый Жэгарын*

# ПА ВУЛІЦАХ ГРОДНА З БОГАМ

***Эвеліна Лукашэвіч***

*Гэтае лета, як і заўсёды, было багатае на розныя пілігрымкі. Адной са шматлікіх стала пілігрымка з Гродна ў дыяцэзіяльны санктуарый у Тракелях. Там многія маладыя людзі ўсвядомілі неабходнасць і важнасць сведчання аб сваёй веры сярод людзей, якія яшчэ не спазналі ўсю сілу Божай любові. Адчулі, што значыць сапраўдны дух адзінства і як важна яго берагчы. Таму, каб захаваць гэты дух, тую атмасферу паломніцтва, каб падзяліцца здабытым падчас шляху духоўным плёнам, моладзь з Гродна вырашыла і надалей сустракацца разам, у зручны для ўсіх час.*

*З кожным днём нас станавілася ўсё больш і больш. Мы адчувалі, як на сустрэчах духоўна ўзбагачаем адзін аднаго. Узнікла ідэя праслаўляць Бога спевам на вуліцах горада. Не перадаць словамі, якой адвагай і духоўнай сілай напоўніліся нашыя сэрцы! Гэты настрой яшчэ надоўга заставаўся з намі. Што вельмі важна, ты і далей крочыш з уздымам па жыцці, прагнеш дзяліцца сваёй верай з акружаючымі. Думаю, гэта толькі пачатак... Ідэй наконт таго, як можна евангелізаваць на вуліцах нашага горада, у нас, натхнёных, з'явілася шмат. Застаецца толькі самім умацоўваць асабістыя адносіны з Езусам, каб потым дзяліцца гэтай радасцю з іншымі.*

*Духоўныя кіраўнікі (ксяндзы, манахіні, клерыкі), якія пастаянна нас суправаджаюць, не перастаюць паўтараць, што вера ўзрастае толькі ў тым выпадку, калі пачынаеш дзяліцца ёю з бліжнімі. І гэта сапраўды так! Мяркую, кожны з нас адчуў і адчувае гэта на ўласным прыкладзе.*

***Кс. Андрэй Бялаблоцкі***

*Аднойчы мы з моладдзю з розных парафій Гродна вырашылі выйсці на вуліцы горада і накарміць бедных. Такі вопыт евангелізацыі я як святар маю. Атрымаў яго на місіях у Бразіліі. Ды і з моладдзю, дарэчы, не ўпершыню падобныя акцыі праводзім. Найчасцей у перыяд посту. Гэта вельмі яскравы прыклад сведчання сваёй веры на практыцы.*

*І вось, мы нагатавалі бутэрбродаў і пайшлі шукаць небаракаў, каб іх пачаставаць. Наш маршрут абмяжоўваўся цэнтрам горада. Але і тут знайшлі нямала патрабуючых. Падыходзілі да іх, віталіся, прадстаўляліся. Бачыў, што пачаць размову моладзі самой няпроста – існуе пэўны бар'ер. Аднак самі бедныя – вельмі адкрытыя на зносіны людзі. Таму ў працэсе размовы маладыя людзі адчувалі сябе вальней, паступова знаходзілі агульную мову і з задавальненнем працягвалі дыялог. У працэсе гаворкі мы дарылі людзям крыжыкі на вяроўцы. Часцей за ўсё падобных важных для верніка рэчаў яны не маюць...*

*Лічу, што гэта цудоўная акцыя як для самых патрабуючых, так і для маладых людзей. У бедняках на вуліцы моладзь сустракае цярпячага Хрыста, вучыцца заўважаць Яго ў іншых, не закрываецца на патрэбы бліжняга, а па магчымасці дзяліцца тым, што мае сама. Праз здзяйсненне такіх учынкаў вера чалавека ўзмацняецца, узрастае. Маю надзею, што гэтая летняя акцыя стане традыцыйнай. Ужо сёння раз на тыдзень, калі ў моладзі выдаецца вольны час, імкнёмся яе паўтараць.*



Напачатку моладзь бянтэжылася перад тым, як падысці да патрабуючых, але рэакцыя людзей, на радасць, аказалася добразычлівай

***Эдуарда Паўлавец***

*Я ў ліку тых, хто адгукнуўся на гэтую ідэю. Чаму? Думаю, свет і так вельмі жорсткі. Падобнымі невялікімі ўчынкамі мы прыносім у наша жыццё штосьці добрае. Ды і ніколі не ведаеш, дзе сам апынешся заўтра. Усе мы людзі, і ўсе мы роўныя. Бедныя гэтак жа, як і мы, маюць патрэбу ва ўвазе, падтрымцы, каб не адчуваць сябе пакінутымі ў гэтым жыцці. Да таго ж, калі я ў стане дапамагчы, чаму б і не? Як гаворыць кс. Андрэй, часам нават пагаварыўшы з імі, робім іх трохі больш шчаслівымі.*

*Па меры магчымасцей заўсёды стараюся пакарміць патрабуючых ці які-небудзь рубель падкінуць. Не ведаю, проста так падказвае сэрца, не магу прайсці міма... А пачалося ўсё з мужчыны, якога ўбачыла зімой у кавярні. Зайшла туды пасля Імшы ў касцёле. Ён моўчкі сядзеў збоку, нібы баючыся, каб яго не выгналі на мароз. Я бачыцам адчула, што невыпадкова сюды зайшла. Падумала, Бог мяне паслаў да гэтага чалавека. Купіла для яго ежы, падышла і проста пакалала побач.*

*З таго часу я вельмі часта сустракаю патрабуючых. Калі надта спяшаюся, стараюся заскочыць у краму, хоць булку купіць. Людзі заўсёды рады. Яны, насамрэч, такія ўдзячныя! Усміхаюцца, распавядаюць свае гісторыі. Такое цяпло разліваецца па душы, калі чую, як яны наўздагон жадаюць здароўя, шчасця, усіх даброт, выкрыкваючы гучнае "з Богам!". Іх шчырасць – неацэнная.*

**Як бачым, мінуўшае лета выдалася для нашых чытачоў багатым як на ўражанні, так і на духоўны плён. Вялікая ўдзячнасць усім, хто прыняў удзел у конкурсе і падзяліўся сваёй гісторыяй на старонках газеты!**

*Рэдакцыя*

## НАВІНЫ



### НА ЎСПАМІН БЛАСЛАЎЛЁНЫХ СЯСЦЁР МУЧАНІЦ З НАВАГРУДКА

Напярэдадні літургічнага ўспаміну с. Марыі Стэлы і яе 10-ці паплечніц у гродзенскі рэктаральны касцёл Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі былі ўнесены рэліквіі загінулых падчас ІІ Сусветнай вайны сясцёр. Яны ўсталяваны ў бакавым алтары пад абразом блаславлёных манахінь.

Непасрэдна ў сам дзень літургічнага ўспаміну сясцёр у Батароўскім лесе пад Навагрудкам, на месцы мучаніцкай смерці манахінь, дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі асвяціў новы крыж.

### БІСКУПСКІЯ ВІЗІТЫ



Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч наведаў парафію Божага Цела ў Дварцы (дэканат Дзятлава). Іерарх благаславіў каплічку св. Антонія Падуанскага, узведзеную пры касцёле, а таксама крыж і фігуру Маці Божай, усталяваныя ў цэнтры мястэчка.

Дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі ўзначаліў традыцыйныя ўрачыстасці на ўшанаванне Маці Божай Каралевы Палесся, галоўнай апякункі Пінскай дыяцэзіі.

### ДАБРАЧЫННАЕ ТАВАРЫСТВА "КАРЫТАС"




Дэлегацыя валанцёраў "Карытас" з Іўя на чале з пробашчам мясцовай парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла кс. Янам Гавецкім сустрэлася з валанцёрамі Мальтыйскай службы дапамогі "Malteser", якая на працягу многіх гадоў пастаўляе ў мястэчка гуманітарную дапамогу. Сустрэча адбылася ў Дзінклаге (Германія). За час прабывання за мяжой дабрачынцы бліжэй пазнаёміліся з арганізацыяй, наведалі медыцынскія ўстановы, гарадскую школу і кляштар сясцёр бенедыкцінак.

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫЯ ДУШПАСТЫРСТВЫ



VIII Сустрэча душпастырства настаўнікаў, выкладчыкаў і выхавацеляў Гродзенскай дыяцэзіі адбылася ў санктуарыі Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях (дэканат Радунь). Работнікі адукацыі сабраліся, каб атрымаць зарад упэўненасці, мудрасці, разважлівасці, якія так неабходны ў іх працы.

20-годдзе існавання душпастырства чыгуначнікаў адзначылі пры гродзенскай парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля. На сустрэчу, між іншым, прыбылі 55 чыгуначнікаў з Польшчы разам са сваім душпастырам, прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса і тыя, хто стаяў ля вытокаў душпастырства чыгуначнікаў у Беларусі.



### АДНЫМ РАДКОМ

• Сустрэча катэхетаў Гродзенскай дыяцэзіі адбылася ў парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне. • Каля 30-ці вернікаў іўеўскай парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла на чале з пробашчам кс. Янам Гавецкім здзейснілі веласіпедную пілігрымку ў Дыяцэзіяльны санктуарый Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях. • Абласны этап рэспубліканскай дабрачыннай акцыі "Аднаўленне святынь Беларусі" адбыўся ў гродзенскай парафіі Святога Духа. • У Гродне зарэгістраваны Тэалагічны каледж імя св. Казіміра. • У рамках Акцыі памяці, прысвечанай загінулым на дарогах дзецям, прадстаўнікі Каталіцкага Касцёла і Праваслаўнай Царквы з Гродна правялі малітву ў інтэнцыі памерлых. • Беларускі хрысціянскі гурт "Laudans" прадставіў кліп на кампазіцыю "Удзячнасць", якая ўвойдзе ў новы альбом, што плануецца выпусціць сёлетняй восенню.

*Агляд навін падрыхтаваны на аснове інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*

### У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**9 верасня 1959 г.** – кс. Чэслаў Дабулевіч, *проб. Нача;*
**12 верасня 1943 г.** – кс. Раман Місевіч, *проб. Трабы;*
**13 верасня 2004 г.** – кс. прэлат Ян Граеўскі, *праф. Гродзенскай ВДС;*
**17 верасня 1963 г.** – кс. прэлат Ігнацый Альшанскі, *проб. Жалудок;*
**17 верасня 2003 г.** – кс. Антоній Юсель, *проб. Граўжышкі;*
**19 верасня 1939 г.** – кс. Антоній Твароўскі, *проб. Юрацішкі;*
**21 верасня 1978 г.** – кс. Казімір Радзішэўскі, *проб. Індура;*
**23 верасня 1996 г.** – кс. прэлат Антоній Банькоўскі, *проб. Осава.*

## АНОНСЫ

### ГРОДЗЕНСКІ ТЭАЛАГІЧНЫ КАЛЕДЖ ІМЯ СВ. КАЗІМІРА АБ'ЯЎЛЯЕ НАБОР НАВУЧЭНЦАЎ НА 2018/2019 НАВУЧАЛЬНЫ ГОД

**Сярод мэт каледжа – паглыбленне ведаў і ўмацаванне веры навучэнцаў, падрыхтоўка спецыялістаў для рэлігійнай дзейнасці.**

Навучанне ў каледжы працягваецца 3 гады. Форма – завочная. Заняткі праходзяць у 1-ую і 3-юю суботу і нядзелю месяца з кастрычніка па чэрвень.

У 2018/2019 годзе каледж прапануе навучанне па 2-ох спецыялізацыях:
1. **катэхетыка** (мае на мэце падрыхтаваць свецкіх вернікаў і кансэкраваных асоб да катэхетычнага служэння ў Каталіцкім Касцёле);
2. **агульная тэалогія** (мае на мэце даць свецкім вернікам магчымасць паглыбіць веданне праўд веры і агульных рэлігійных ведаў згодна з Божым аб'яўленнем і вучэннем Касцёла).

Кандыдатамі на вучобу ў каледжы могуць быць выключна католікі, паўналетнія, якія маюць атэстат аб сярэдняй адукацыі.

Жадаючыя распачаць навучанне павінны прадставіць у сакратарыят Гродзенскай курыі (вул. Карла Маркса, 4, 230025 Гродна) наступныя дакументы:
– пасведчанне аб сакраманце хросту,
– атэстат сталасці,
– медыцынскую даведку,
– 4 фотаздымкі 3×4,
– ксеракопію пашпарта,
– уласнаручна напісаную аўтабіяграфію,
– рэкамендацыю ад пробашча,
– заяву з просьбай аб прыняцці.

Прадугледжана папярэдняя суразмова.

*Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне (8 033) 689-33-39 (Вольга Голуб – сакратар каледжа) або па электроннай пошце katecheza.kuria@gmail.com.*

### НА ПАЧАТАК НОВАГА НАВУЧАЛЬНАГА І КАТЭХЕТЫЧНАГА ГОДА АДБУДЗЕЦЦА ПІЛІГРЫМКА Ў КАПЦЁЎКУ

**Пешае паломніцтва дзяцей і моладзі, настаўнікаў і выхавацеляў, выкладчыкаў і катэхетаў з Гродна і ваколіц у санктуарый Маці Божай Яснагорскай на Узгорку Надзеі запланавана на 16 верасня.**

**Праграма пілігрымкі і ўрачыстасцей у Капцёўцы**

07.00 – св. Імша ў касцёле Маці Божай Анёльскай (францішканскі) у Гродне;
08.00 – выхад пілігрымкі;
12.00 – прывітанне пілігрымаў на Узгорку Надзеі ў Капцёўцы;
12.00 –13.00 – адпачынак, гарбата;
13.00 – Вяночак да Божай Міласэрнасці;
13.15 – св. Імша (адбудзецца асвячэнне школьных прылад);
14.30 – канцэрт, выступленні парафіяльных груп;
16.30 – заканчэнне, вяртанне аўтобусамі ў Гродна.

*Больш інфармацыі можна атрымаць у кусташа санктуарыя ў Капцёўцы кс. Міхала Ластоўскага па тэлефоне: (8 029) 116-87-26.*

### АЙЦЫ КАРМЭЛІТЫ ЗАПРАШАЮЦЬ НА СУСТРЭЧЫ ШАНАВАЛЬНІКАЎ МАЦІ БОЖАЙ З ГАРЫ КАРМЭЛЬ

**Сустрэчы брацтва будуць праходзіць у кожную 1-ую пятніцу месяца ў гродзенскай парафіі Найсвяцейшай Панны Марыі Вастрабрамскай Маці Міласэрнасці (Аўгустовак).**

**План сустрэчы**

18.00 – набажэнствa і святая гадзіна;
19.00 – св. Імша;
– канферэнцыя.

*Першая сустрэча адбудзецца **5 кастрычніка.***

**Сустрэчы брацтва будуць праходзіць таксама ў кожную 1-ую суботу месяца пры гродзенскай парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля (Дзевятоўка).**

**План сустрэчы**

10.00 – св. Імша;
– адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту;
– фармацыйнае спатканне.

*Першая сустрэча адбудзецца **6 кастрычніка.***

### ПЛАН ВОСЕНЬСКІХ РЭКАЛЕКЦЫЙ У РОСІ

**ВЕРАСЕНЬ**

**21–23 верасня:** рэкалекцыі, прысвечаныя 50-годдзю з дня нараджэння для неба св. айца Піо з П'етрэльчыны, кс. Чэслаў Паўлюкевіч.

**КАСТРЫЧНІК**

**5–7 кастрычніка:** рэкалекцыі для мужчын, кс. Валерый Лісоўскі;
**19–21 кастрычніка:** "Бог ёсць Любоў" (1 Ян 4, 16), кс. д-р Аляксандр Севасцьяновіч.

**ЛІСТАПАД**

**9–11 лістапада:** "Унутранае ацаленне", кс. Віктар Ханько;
**16–18 лістапада:** рэкалекцыі для сужэнскіх пар з малітвай аб дары патомства, кс. Чэслаў Паўлюкевіч;
**23–25 лістапада:** рэкалекцыі аб "Сведчанні" і "Павучанні" з дзённіка Аліцыі Лянчэўскай, кс. Чэслаў Паўлюкевіч.

Пачатак рэкалекцый у 18.00. Заканчэнне – у 15.00.

*Для ўдзелу ў духоўных практыкаваннях неабходна абавязковая рэгістрацыя па тэлефоне: (8 029) 886-31-28. Па пытанні запісу просьба тэлефанаваць з панядзелка па пятніцу ў гадзінах: 11.00–12.00, 20.00–21.00.*

## Каляндар падзей

**14 верасня**
*Свята Узвышэння Святога Крыжа.*

**15 верасня**
*Успамін НПМ Балеснай.*

**18 верасня**
*Успамін св. Станіслава Косткі, заступніка дзяцей і моладзі.*

**21 верасня**
*Свята св. апостала Мацея.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

**Верасень**

*Каб бацькі і хросныя, катэхеты і настаўнікі старанна клапаціліся аб рэлігійным выхаванні дзяцей і моладзі, а сваім прыкладам жыцця пабуджалі да любові да Хрыста і Яго Касцёла.*

Дзіцячы куточак

# РАСПАЧЫНАЕМ АД ПАДЗЯКІ

*Вітаю Цябе, мой маленькі Чытач! Распачынаецца новы навучальны і катэхетычны год. А гэта азначае, што скончыліся канікулы – час весялосці і свабоды, радасці і адпачынку. Напэўна, гэта былі самыя прыемныя дні ў годзе. Доўга яшчэ будзем памятаць лес, луг, рэкі, прыбярэжны пясок. Часта будзем разглядаць фотаздымкі, якія з такой дакладнасцю збіралі ў альбом.*

*Убачыўшы ў люстэрку свой загарэлы твар, памятай, што Ты стаў больш дарослым, а гэта вымагае мудрасці. Таму з першага дня навучання імкніся працаваць так, каб атрыманыя веды дапамаглі Табе як мага лепш служыць людзям.*

*На пачатку новага навучальнага і катэхетычнага года хачу распавесці Табе цікавае апавяданне, якое некалі пачула ад аднаго святара.*

***У акружэнні руінаў замка знаходзілася вёска. Згодна легендзе, шмат стагоддзяў таму госцем гаспадара гэтай вёскі быў збраяносец імператара Фрыдрыха па імені Тангейзер. Гэта быў малады чалавек з пышнымі чорныміваласамі і вялікімі цёмнымі вачыма. Ён вёз 2 пасланні: адно для графіні Біянкі, 2-ім быў пергамент, перавязаны чырвонай стужкай і аздоблены патройнай пячаткай імператара.***

***Ноч, якую Тангейзер правёў у вёсцы, была ноччу здрады. Гаспадар замка таемна заключыў пагадненне з ворагамі імператара і паспрабаваў пасадзіць у турму збраяносца, які смела абараняўся. Смяротна паранены, ён саскочыў са сцяны і знік у лесе. Ніхто болей яго не бачыў.***

***Толькі нядаўна турысты, якія адпачывалі ў гэтай маленькай вёсцы, вырашылі разгадаць старажытную таямніцу. Кожны ўзяў ліхтарык, інструменты і ў суправаджэнні вясковага пастыра, які добра ведае мясцовасць, усе выйшлі на пошукі пергамента. Пастыр правёў іх праз цясніну і зараснікі. Нарэшце яны дасягнулі пячоры з 2-ма крыніцамі. Пачалі капаць. Рыдлёўкі пагрузіліся ў траву паміж кустоў. Людзі адкінулі вялікія камяні – і перад іх вачыма з'явілася чорная пячора.***

***У сярэдзіне, сярод костак, быў бачны скрутак пергаменту. Турысты ўзялі яго дрыготкімі рукамі. Вярнуліся ў вёску, дзе ў цішыні разарвалі пячаткі і прачыталі пасланне імператара Фрыдрыха. У ім было занатавана: "Існуюць 3 выдатныя з'явы: ноч, усыпаная зоркамі, залаты захад сонца над морам і снежная вяршыня гары. Але ёсць яшчэ нешта больш прыгожае: гэта вочы дзіцяці, якое сустрэла Бога. Існуюць 3 сілы: равучы леў у пустыні, гара, якая супраціўляецца ўрагану, і рука бясстрашнага рыцара. Але ёсць яшчэ нешта больш мацнейшае: гэта сэрца дзіцяці, якое жыве сваёй верай".***

*"Таямніца імператара Фрыдрыха", Бруна Ферэйра*

*Як імператар Фрыдрых паслаў свайго збраяносца з незвычайным пасланнем, напісаным на пергаменце, так да Цябе пасылаецца настаўнік і катэхет, якія ўсімі сіламі будуць імкнуцца паглыбіць Твае веды. Няхай імператарскія словы "ёсць яшчэ нешта больш мацнейшае: гэта сэрца дзіцяці, якое жыве сваёй верай" пастаянна нагадваюць Табе катэхета, які служыць дапамогай у памнажэнні талентаў.*

**Заданне:** ***падзякуй Пану Богу за пражытыя канікулы і памаліся за людзей, дзякуючы якім Ты змог добра адпачыць. Падчас нядзельнай св. Імшы ахвяруй Усявышняму свой навучальны і катэхетычны год і выкажы Яму ўдзячнасць за атрыманыя веды і тых, хто Цябе вучыць.***

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

# Ад шчырага сэрца

### Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Быкоўскаму

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, нязгаснага запалу ў паслузе на карысць Богу і людзям, штодзённай радасці, душэўнага супакою і аптымізму. Няхай Пан Бог блаславіць кожны дзень, а Маці Божая заўсёды апекуецца Вамі. Дзякуем за добрае сэрца і цудоўны прыклад веры.

*Удзячныя вернікі і Ружанцовае кола св. Яна Непамуцэна са Станевічаў*

### Паважанаму Ксяндзу Дзянісу Шмыгіну

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: добрага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою. Няхай усемагутны Бог, які ўказаў Вам жыццёвы шлях, суправаджае і дапамагае перамагаць усе цяжкасці, Маці Божая атуляе сваёй апекай, а наша малітва будзе падтрымкай у цяжкія хвіліны жыцця. Вельмі ўдзячныя бацькам за сына святара.

*Касцёльны камітэт з парафіі Звеставання НПМ, Міжэрычы*

### Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Радзюку

з нагоды Дня нараджэння жадаем шмат здароўя, радасці, усмешкі. Няхай вера становіцца ўсё больш шчырай, а абвяшчаемае Слова ўсё глыбей трапляе ў сэрцы вернікаў. Няхай Пан Езус спадарожнічае Вам на кожным кроку і абараняе ад усяго зла. Жадаем таксама шмат сіл і душэўнага супакою для актыўнага ўдзелу ў жыцці парафіі і супольнасці Касцёла.

*З малітвай і ўдзячнасцю, вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

### Паважаны Айцец Аляксандр Махнач!

З нагоды Дня нараджэння перасылаем Вам самыя сардэчныя пажаданні: Божага блаславення на кожны дзень, душэўнага супакою, усмешкі, шмат радасці і здароўя. Няхай Святы Дух дапамагае выконваць душпастырскую паслугу і адорвае сваімі дарамі, а Панна Марыя дапамагае заўсёды і ўсюды.

*З павагай і малітвай, вернікі з парафіі Ліда-Індустрыяльны*

### Паважанай Сястры Марыі Стасевіч

з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Пан Езус адорыць здароўем, цярплівасцю, духоўнай і фізічнай сілай, Найсвяцейшая Маці нястомна чувае над Вамі і вядзе да святасці, а Святы Дух шчодра адорвае патрэбнымі ласкамі. Молімся, памятаем і любім Вас!

*Віталій і Аліцыя Воранавы са Смаргоні*

### Паважанаму Ксяндзу Віталію Цыбульскаму

з нагоды Дня нараджэння шчыра жадаем моцнага здароўя, духоўных і фізічных сіл, натхнення ў штодзённых справах, здзяйснення ўсіх мар, вытрымкі ў няпростых жыццёвых сітуацыях. Няхай Святы Дух, Маці Божая, Пан Езус і ўсе святыя абараняюць Вас і Вашых бацькоў ад злога, а добры Бог нястомна блаславіць на працягу ўсяго жыцця. Дзякуем за заўсёды добры настрой, усмешку на твары і вялікае, зычлівае сэрца.

*З павагай і малітвай, парафіяне, Легіён Марыі, апастальства "Маргарытка" з касцёла святых апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

### Паважанай Сястры Філатэі Ціхановіч

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем добрага здароўя, усіх Божых ласкаў і мноства радасных дзён. Няхай Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, Святы Дух асвячае кожны дзень жыцця, Маці Божая прытуляе да свайго сэрца і штодзённа Вамі апекуецца.

*З памяццю ў малітве, Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

### Паважанаму Ксяндзу Артуру Валчкевічу

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем доўгіх гадоў жыцця, радасці і шчасця, моцнага здароўя і ўсіх Божых ласкаў. Вялікі дзякуй за бездакорную працу ў нашай парафіі. Няхай кожны новы дзень дорыць Вам толькі добрыя весткі, сэрца не кранаюць трывогі і смутак, а праца прыносіць задавальненне. Няхай шлях служэння будзе доўгім, і міласэрны Бог за ўсё Вам аддзячыць.

*Легіён Марыі, Ружанцовае кола, вернікі з парафіі св. Яна Паўла II, Смаргонь*

### Паважанаму Айцу Яцэку Маркелю

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, непахіснай веры і надзеі, штодзённай радасці, добрых і зычлівых людзей на святарскім шляху, дасягнення ўсіх пастаўленых мэт, а таксама Божай дапамогі на кожны дзень жыцця.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Зэльвы*

### Паважанаму Ксяндзу Юрыю Канапельку

з нагоды 15-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, поспехаў ва ўсіх справах, а таксама шчырых і верных людзей побач. Няхай Вам заўсёды хапае сіл, запалу і стойкасці ў імкненні да мэты, а кожная хвіліна жыцця будзе радаснай і благаслаўлёнай. Няхай Пан адорыць Вас сваімі шматлікімі ласкамі, а Яго Маці заўсёды мае ў сваёй міласэрнай апецы.

*З павагай і малітвай, парафіяне з Поразава*

### Паважанаму Ксяндзу Яцэку Маркелю

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем добрага здароўя, радасных дзён, шмат сіл для пераадолення цяжкасцей, моцнай веры, нязгаснай надзеі і сапраўднай Божай любові. Заўсёды будзьце акружаны промнямі міласэрнасці Езуса, моцай Святога Духа і апекай Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Заступніка.

*З павагай і малітвай, былыя парафіяне з Зэльвы: сем'і Трубей і Раманчук з Гродна*

### Паважанаму Ксяндзу Прэлату Вітольду Лазавіцкаму

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, сілы, мудрасці і цярплівасці на святарскім шляху. Няхай міласэрны Езус прытуляе Вас да свайго Найсвяцейшага Сэрца, Святы Дух няспынна спасылае свае дары, а Найсвяцейшая Панна ахінае сваёй любоўю і апекай.

*Вернікі з вёскі Галавенчыцы*

### Паважанаму Ксяндзу Прэлату Вітольду Лазавіцкаму

з нагоды Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя, поспехаў, цярплівасці, мужнасці, добрых і зычлівых людзей побач. Няхай усемагутны Бог дае Вам сілы, Святы Дух надзяляе мудрасцю і спакоем, а Езус служыць прыкладам на святарскім шляху.

*Парафіяльная рада і парафіяне*

### Паважаным Ксяндзам Віталію Цыбульскаму і Юрыю Ёдзіку

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем добрага здароўя, душэўнага супакою, Божага блаславення і людской зычлівасці. Няхай Святы Дух асвячае Ваш шлях, Маці Божая выпрошвае сіл, цярплівасці і стойкасці ў жыцці, а Анёлы-ахоўнікі верна Вам служаць. Няхай кожны дзень паслугі Богу і людзям прыносіць радасць і задавальненне.

*Апостальскі рух "Маргарытка" і Легіён Марыі з парафіі св. Яна Паўла II, Смаргонь*

### Паважанаму Ксяндзу Прэлату Вітольду Лазавіцкаму

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог Айцец блаславіць Вас, Езус Хрыстус дапамагае быць верным і святым святаром, Святы Дух асвячае і суправаджае па Божых сцежках, а Марыя апекуецца Вамі і вучыць пакорнасці. Няхай кожны дзень жыцця праходзіць у радасці, здароўе спрыяе і ніколі не будзе недахопу ў людской зычлівасці. Мы вельмі Вам удзячныя за ўсё, што зрабілі для аднаўлення нашай святыні.

*З малітвай, Ружанцовыя колы, члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Радуні*

### Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Алегу Дулю

з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, шчодрых Божых ласкаў, сіл для рэалізацыі ўсіх планаў і намераў. Няхай людзі, якіх Вы сустракаеце на святарскім шляху, адорваюць цеплынёй і зычлівасцю, а Маці Божая ахінае плашчом сваёй любові і нястомна Вамі апекуецца.

*Ружанцовыя колы і парафіяне з касцёла св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску*

### Паважаны Ксёндз Канонік Ян Пузына!

З нагоды Дня нараджэння і 20-й гадавіны святарскай паслугі ў нашай парафіі перасылаем сардэчныя пажаданні: добрага здароўя, шчасця, душэўнага супакою, нястомных сіл у рэалізацыі планаў і зычлівых людзей побач. Няхай Бог блаславіць, Марыя адорвае клопатам і апекай, а святы Заступнік заўсёды будзе побач.

*З павагай і малітвай, апастальства "Маргарытка" з Ашмянаў*

### Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Раманоўскаму

з нагоды Дня нараджэння складаем найлепшыя пажаданні. Няхай Ваша добрае і чулае сэрца будзе напоўнена радасцю, любоўю і верай, а сіла Божага слова дапамагае быць мудрым правадніком на дарозе сапраўднага дабра сярод розных сумненняў і спакус. У малітве просім Бога, каб благаславіў Вас і падтрымліваў у кожнай справе.

*Парафіяльная рада і вернікі з касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

*Сардэчна дзякуем усім, хто прымаў на начлег, частаваў пасілкамі, з вялікай зычлівасцю сустракаў удзельнікаў сёлетняй пешай пілігрымкі з Гродна ў санктуарый Пана Езуса Журботнага ў Росі. Асаблівым чынам дзякуем жыхарам вёскі Станевічы і навакольных вёсак за вялікую гасціннасць і цудоўны клімат.*
*Выразам нашай удзячнасці з'яўляецца малітоўная памяць. Узгадваем пра Вас перад Богам і молімся, каб Усемагутны адорваў Вас патрэбнымі ласкамі.*

*З удзячнасцю і выразамі павагі ўдзельнікі XVI Пешай пілігрымкі Гродна–Рось*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла, Алена Гальчэня; тэл. (**8 0152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 4511; тыраж 5240; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная